*ВАЮЙ, НАРОДЗЕ, ЗА СВАЕ ПРАВЫ! — К. Каліноўскі*

ISSN 5172

ЗА ВОЛЮ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ!



# ЗВАЖАЙ

Часапіс Беларускіх Вэтэранаў. Выдае Камітэт Сувязі Быўшых Беларускіх Вайскоўцаў

ZVAZAJ′ Veterans quarterly, published by Liaison Committee of Byelorussian War Veterans.

Canada Post: 57 Riverdale Ave., Toronto, Ont., M4K 1C2

U.S. Post: Assn of Byelorussian American Veterans, 9 River Rd., Highland Park, N.J. 08904, U. S.

Год 14 Чырвень, 1988 Нр. 2 (50)

## РАСПАД САВЕЦКАЕ ІМПЭРЫІ НЯЎХІЛЬНЫ



Год таму, у артыкуле п. заг. "Кошт савецкае імпэрыі" (гл. "Зважай", нр. 1(45), 1987 г., б. 2) мы пісалі: "Савецкі Саюз — ня першая ванная імпэрыя сьвету. Магутныя й вялікія імпэрыі існавалі й раней. Усе яны ў канчатковым выніку распаліся".

Як вядома, савецкая імпэрыя — працяг маскоўскае імпэрыі, адна зь ейных фазаў. Пачаткі яе трэба шукаць у XIV XV ст.ст., калі Масква, вызваліўшыся ад мангола- татарскага панаваньня, пачала працэс г. зв. "зьбіраньня рускіх земляў", пертвараючыся, шляхам захопу суседніх земляў, у адзіную цэнтралізаваную дзяржаву.

Аднак, у адрозьненьне ад імпэрыяў у мінулым, маскоўска- савецкая імпэрыя ёсьць асаблівага тыпу. Ейнае фармаваньне калісь і цяпер абумоўлівалася і абумоўліваецца не эканамічнымі прычынамі, а палітычнымі і ідэялягічнымі. Адгэтуль — ейная другая асаблівасьць, якая адрозьнівае савецкую імпэрыю ад імпэрыяў мінулага — яна церпіць страты.

Гэтак, напрыклад, рымская або брытанская імпэрыі багацелі ад вывазу з калёніяў або залежных краінаў, і гэта непасрэдна адчувалі на сабе жыхары мэтраполіі. Стацца грамадзнінам Рыму — азначала шлях да заможнага жыцьця. Грамадзяне-ж Савецкага Саюзу ня могуць пахваліцца сваім жыцьцёвым узроўнем у параўнаньні, скажам, з Вугорцамі, Чэхамі, Палякамі, Баўгарамі ці Ўсходнімі Немцамі. Бясспрэчна, ім могуць пазайздросьціць Этыёпы, Ветнамцы, Кубінцы, Ангольцы, навет Румыны. Аднак ад гэтага сутнасьць справы не мяняецца. Савецкая імпэрыя прыносіць мэтраполіі адны толькі страты.

Паводля вестак амэрыканскай навуковай арганізацыі РАНД, за апошняга паўтара дзесяцігодзьдзя Савецкі Саюз выдаў на ўтрыманьне й пашырэньне імпэрыі каля 400 мільярдаў рублёў. Калі дадаць да гэтага звыш трыльёну рублёў, выдаткаваных на ваенныя мэты, дык можна ўважаць, што сумарныя ваенна- імпэрскія выдаткі Савецкага Саюзу складалі за апошнія 15 гадоў паўтара трыльёну рублёў. Гэта адпавядае валавому нацыянальнаму прадукту Савецкага Саюзу за тры гады.

Інакш кажучы, на працягу апошніх 15 гадоў савецкія грамадзяне, у тым ліку й нашы суродзічы, працавалі на мэты ўтрыманьня й пашырэньня расейскае імпэрыі, нічога не атрымліваючы ўзамен, апроч хіба войстрага дэфіцыту прадуктаў харчаваньня і тавараў шырокага ўжытку. Дык вельмі сумлiўна, каб у сэрцы савецкага грамадзяніна, які траціць шмат часу ў пошуках каўбасы або ў чарзе па мяса ці малако, гарэла пачуцьцё гордасьці за імпэрыю. Наадварот, ягонае сэрца засумавала-б, калі-б ён мог даведацца, а ў пэрыяд галоснасьці павінен даведацца, — пра вынікі дасьледваньняў амэрыканскае арганізацыі РАНД.

Гэтыя дасьледваньні ўстанавілі залежнасьць паміж ростам імпэрскіх і ваенных выдаткаў Савецкага Саюзу й тэмпамі эканамічнага разьвіцьця краіны. Гэтак, павялічэньне на адзін працэнт ваенных выдаткаў зьніжае на тры дзясятыя працэнту рост грамадзянскага спажываньня. Няма сумлеву, што сучаснае савецкае кіраўніцтва на чале зь Міхаілам Гарбачовым добра разумее адмоўны ўплыў вялізарных імпэрскіх выдаткаў на эканоміку краіны, на лес перабудовы. Мабыць таму на працягу апошніх гадоў выдаткі на падтрыманьне й асабліва пашырэньне імпэрыі скараціліся даволі адчувальна. У першую чаргу скарацілася дапамога для краінаў Усходняй Эўропы. Гарбачоў неаднойчы настойліва

# ДА 425-х УГОДКАЎ ЗАХОПУ ПОЛАЦКУ ІВАНАМ ГРОЗНЫМ

Дакладна 425 год назад, 15 лютага 1563 году, пасьля двухтыднёвай аблогі, шматтысячная маскоўская армія на чале з царом Іванам IV-м Грозным, захапіла наймагутнейшую крэпасьць у Беларусі — старадаўнюю сталіцу Крывічоў — Полацак, зьнішчаючы фізычна або перасяляючы прымусова ў глыб Расеі большасьць яго жыхароў і вывозячы ў Маскву ўсе матар'яльныя багацьці й культурныя каштоўнасьці гэтага славутага беларускага гораду. Падзея гэтая зьвязаная з 25-гадовым эпізодам у гісторыі Беларусі — пэрыядам Лівонскае вайны 1558-1583 гадоў Лівоніі, Вялікага Княства Літоўскага, Польшчы й Швэцыі з Маскоўшчынай. У Лівонскую вайну ВКЛ змушанае было ўмяшацца як з прычыны маскоўскае пагрозы ў Прыбалтыцы, гэтак і з прычыны агульнае пагрозы Вялікаму Княству Літоўскаму.

Як вядома, у тыя часы маскоўскія князі, і ў першую чаргу Іван IV Васілевіч, празваны за дэспатычны характар Грозным, імкнуліся ажыцьцявіць свае пляны так званага "зьбіраньня рускіх земляў" і, адначасова, дабіцца выхаду да Балтыйскага мора. Гэтыя імпэрыялістычныя пляны пашыраліся й на беларускія землі, якія цынічная Масква лічыла сваей гістарычнай спадчынай.

Лівонскую вайну Маскоўшчына распачала ў 1558 годзе адразу пасьля спыненьня расейска-швэцкай вайны ўканцы 1557 г. Іван Грозны заняў Нарву, Дэрпт (Тарту) й наблізіўся да Рэвеля (Таліна). У гэтую вайну ВКЛ ўступіла ў 1561 годзе, пасьля падпісаньня зь Лівоніяй Віленскага дагавору, паводля якога ліквідаваўся Лівонскі ордэн, а ягоныя землі, за выключэньнем Курляндыі, былі далучаныя да ВКЛ. З гэтае прычыны адкрытая вайна з Маскоўшчынай выбухла ў 1562 годзе, калі маскоўская армія раптоўна ўварвалася ў межы ВКЛ.

Пабачыўшы, што вайна зь Лівоніяй прайграная, раззлаваны пераходам ордэну пад патранат беларускае дзяржавы, Іван Грозны зьмяніў сваю стратэгію й накіраваў свае асноўныя сілы да паўночна-ўсходніх межаў ВКЛ, г. зн. на Беларусь. Восеньню 1562 году маскоўскія войскі зьявіліся пад Віцебскам, Воршай, Дуброўнай, Копысем і Шкловам. Вялікі гэтман ВКЛ Мікалай Радзівіл Рыжы перанёс сваё камандаваньне зь Вільні ў Менск і паслаў беларускія вайсковыя адзьдзелы пад Дарагабуж, Вяліж і Смаленск.

Тым часам саракатысячная маскоўская армія накіроўвалася на Невель, мяркуючы заатакаваць Полацак з поўначы. Высланы Радзівілам на сустрач ёй невялікі адзьдзел пад камандай ротмістра Лясьнеўскага вельмі ўдалым манэўрам填 ператапіў маскоўскую армію ў непраходных багнах Невельскае пушчы. Князь Андрэй Курбскі, які камандаваў маскоўскім войскам, баючыся нямінучага пакараньня яго Іванам Грозным за страту шматтысячнае арміі, дабраахвотна пайшоў у палон да ВКЛ.

У сувязі з гэтым, у студзені 1563 году, Іван Грозны пастанавіў сам заатакаваць Полацак, што меў вялізарнае эканамічнае й ваенна-стратэгічнае значэньне. Падрыхтоўку да аблогі Полацку маскоўскае камандаваньне вяло ў строгай таямніцы, так што пра яе не здагадваліся ні кароль Жыгімонт II Аўгуст, ні вялікі гэтман Радзівіл. У той момант, калі 80-тысячная армія падыйшла да гораду й адкрыла па ім моцны агонь, у Менску да вялікага гэтмана ВКЛ далучыліся зь невялікімі вайсковымі адзьдзеламі Віленскі ваявода Ян Радзівіл і гэтман польны Рыгор Хадкевіч. Разам удалося сабраць каля 3400 чалавек. І гэтая жменька, пад камандаю вялікага гэтмана Радзівіла, пайшла ратаваць старажытны Полацак, які быў ключом да найважнейшага для Прыбалтыкі воднага шляху па Дзьвіне і які адкрываў для маскоўскае арміі дарогу ў сталіцу ВКЛ Вільню. Не дайшоўшы да Полацку, адзьдзел гэты спыніўся й ня прыймаў удзелу у галоўных падзеях полацкай кампаніі. Ён бездапаможна

## РАСПАД САВЕЦКАЕ ІМПЭРЫІ

даваў парады краінам Усходняй Эўропы пачаць уласную перабудову.

Аднак, калі дапамога для краінаў Усходняй Эўропы значна скарацілася, гэтага нельга сказаць у дачыненьні да Кубы, Ветнаму й Афганістану. Мільярды рублёў працягваюць плысьці ў распараджэньне Кубы й Ветнаму. Паводля падліку Міністэрства абароны Злучаных Штатаў, у 1986 годзе вайна ў Афганістане каштавала Савецкаму Саюзу пяць мільярдаў 400 мільёнаў даляраў, а за дзевяць месяцаў 1987 году — 4.100.000.000 дал. Хоць агульная сума імпэрскіх выдаткаў СССР значна скарацілася, іхны цяжар, на думку заходніх спэцыялістаў, працягвае адмоўна ўплываць на савецкую эканоміку. Дасьледнікі з амэрыканскай арганізацыі РАНД, параўноўваючы савецка-маскоўскую імпэрыю зь імпэрыямі мінулых часоў, заўважылі тры фазы разьвіцьця, уласьцівыя ім.

Першая фаза — фармаваньне імпэрыі — звычайна адпавядае хуткаму ейнаму пашырэньню й хуткаму росту выдаткаў. Затым наступае пэрыяд стабілізацыі. У гэтай фазе імпэрскія выдаткі застаюцца на ранейшым узроўні або навет крыху скарачаюцца. У заключнай фазе, у якую якраз увайшла цяпер савецкая імпэрыя, разьвіваюцца падзеі, якія ў канчатковым выніку прыводзяць да распаду імпэрыі.

Савецкі Саюз пачаў перабудову грамадзкага, сацыяльнага, эканамічнага жыцьця. Як і кажная рэканструкцыя, яна вымагае вялікіх намаганьняў і напружаньняў, гіганцкіх матар'яльных выдаткаў. Але ў Савецкага Саюзу ёсьць выдаткі, што пэўна адцягваюць сродкі, якія ў іншым выпадку з посьпехам былі-б ужытыя на патрэбы перабудовы. У ліку гэткіх выдаткаў немалое месца займаюць расходы на ўтрыманьне "парадку" ў сваей імпэрыі.

Перабудова правалiцца, калі не атрымае дастатковай матар'яльнай базы. Аднак, Савецкі Саюз — не нагэтулькі багатая краіна, якая магла-б дазволіць сабе рэканструкцыю грамадзтва й эканомікі й адначасна утрымліваць імпэрыю. Гэтую думку даволі выразна выказаў нядаўна адзін зь кіраўнікаў вугорскай кампартыі Геза Котай. "Савецкі Саюз, — сказаў ён, — зразумеў, што нутраныя сацыяльныя і эканамічныя праблемы абмяжоўваюць ягоную ролю, але, як выглядае, не да канца".

Вайна ў Афганістане, якая шмат каштуе СССР, працягваецца й далей, Куба ня выводзіць свайго экспэдыцыйнага корпусу з Анголі, а Ветнам — з Кампучыі. Пераважна на савецкія грошы Нікарагуа мае намер разбудаваць і ўтрымліваць 600-тысячную армію. Запал імпэрскіх амбіцыяў не астывае! А гэта й спрычыніцца да канчатковага распаду маскоўска-савецкае імпэрыі.

*пу-вс*

прыслухоўваўся здалёку гарматным выбухам і ўначы сачыў чырвонае неба ад пажараў падпаленага Полацку.

Абарона Полацку была даручаная ваяводзе Станіславу Давойне. Яшчэ перад аблогай гораду сюды было сагнана каля 2000 сялянаў для ўмацаваньня замку. Перад самай аблогай замку маскоўскай арміяй, сяляне гэтыя былі адасланыя з Полацку дахаты. Маскалі захапілі іх і прымусілі паказаць у лясох ямы з запасамі збожжа й харчоў для нашага войска. Знаходка гэтая ўратавала маскоўскую армію ад голаду, які ўжо быў пачаўся ў ейных шэрагах.

Ваявода Давойна з малым лікам войска ня мог бараніць усяго гораду, таму абмежаваўся толькі абаронай замку. Пасьля доўгага абстрэлу замку з гарматаў, у ягонай сьцяне зрабілі пралом. Узьнік пажар, што спаліў шмат драўляных будынкаў і гарадзішча. Ад пажарнага дыму загінула многа людзей, але абаронцы не здаваліся, працягвалі ўпартае змаганьне. Страціўшы надзею здабыць Полацак боем, Іван Грозны загадаў абаронцам паддацца.

Зламаныя бязупыннай барацьбой, страціўшы надзею на падтрыманьне звонку, ратуючыся ад полымя, ваявода і япіскап выйшлі з замку, даручаючы сябе на міласьць пераможцы. Каля 500 жаўнераў, што засталіся на абаронных валах ды шляхта й слухаць пра капітуляцыю не хацелі. Аднак пасьля некалькіх дзён гэраічнай абароны, яны вымушаныя былі здацца з умовай, што будуць на волю выпушчаныя. Цар Іван Грозны даў абяцаньне, што гэта зробіць. 15-га лютага 1563 году абаронцы склалі зброю і ён урачыста, як і належыць пераможцу, уехаў у разбураны дашчэнту найбуйнейшы горад ВКЛ — Полацак.

Зразумела, Іван Грозны свайго абяцаньня не датрымаў. Ды як можна было спадзявацца ад дэспата, які фізычна зьнішчаў сваіх праціўнікаў, канфіскаваў іхнюю маёмасьць, караў сьмерцю й часта рабіў рэпрэсіі супраць нявінаватых навет у сваей уласнай дзяржаве! Ён датрымаў слова толькі ў адносінах да невялікай групы Палякаў, якія таксама бралі ўдзел у абароне Полацку, але зрабіў гэта выключна з чыста палітычных і тактычных меркаваньняў. Усіх-жа беларускіх абаронцаў, сярод якіх былі прадстаўнікі высокіх родаў, як князі Дарагастайскі й Саламярэцкі, магнаты Нямiровіч, Корсак, Глябовіч, Эйсманы, а таксама ваяводу Давойну зь сям'ёй і япіскапа Полацку ды ўсю шляхту й шматлікіх мяшчанаў, Іван Грозны абвесьціў палоннымі й выслаў іх у Маскоўшчыну.

Паводля тагачасных летапісаў, ён адправіў у маскоўскія землі больш за 50 тысяч чалавек абодвух полаў. Жыдоў, якія карысталіся ў Полацку, зрэшты як і ўва ўсей нашай дзяржаве, ВКЛ, усімі правамі грамадзянаў, Іван Грозны загадаў ахрысьціць. Тых-жа, што ад хрышчэньня адмаўляліся, разам з малымі дзецьмі выганяў за Дзьвіну або Валовае возера й тапіў. Такім самым спосабам ён абыходзіўся і з каталіцкім духавенствам і манахамі, якіх загадаў перабіць да апошняга.

Зрабіўшы такім чынам у Полацку "парадак", сам Іван Грозны вярнуўся ў Маскву. Ён вывез увесь дзяржаўны й гарадзкі скарб, маёмасьць шляхты й купцоў — золата, серабро, а таксама ўсе культурныя каштоўнасьці: кнігі, дакумэнты, архівы.

Да захопу й зьнішчэньня Іванам Грозным Полацак славіўся на ўсю краіну вялікім багацьцем, разьвітай прамысловасьцяй і гандлем, высокай культурай. У 1566 годзе, занесеная маскоўскім войскам чума дакашвала рэшту жыхарства зруйнаванага гораду, якое яшчэ ўцалела. Апусьцелі таксама й навакольныя вёскі. Полаччынга была ператвораная ў пустыню. Праз пару год у спустошаным Полацку была ўведзеная сыстэма надзвычайных ваенна-адміністрацыйных і сацыяльна-эканамічных мерапрыемстваў званая апрычнінай, якая спрычынілася да яшчэ большага заняпаду гораду.

У такім жудасным становішчы найстарэйшы горад Беларусі, горад Рагвалода й Рагнеды, Усяслава Чарадзея і сьвятой Ефрасіньні Полацкай, дойліда Івана й майстра-мастака Лазара-Богшы, Францішка Скарыны й Сымона Полацкага, заставаўся да 30-га жніўня 1579 году, калі ён быў вызвалены войскамі Рэчы Паспалітай на чале з каралём Сьцяпанам Баторым.

Захоп Полацку Іванам Грозным быў толькі эпізодам у 25-гадовай Лівонскай вайне, што цягнулася да паловы студзеня 1582 году, калі ў Ям-Запольскім было заключанае перамір'е на 10 гадоў, паводля якога Лівонія, Вяліж і Полацак ды Полаччына асталіся пры Вялікім Княстве Літоўскім. На працягу ўсяго гэтага часу адбывалася не адна бітва паміж войскамі ВКЛ і Маскоўшчынай, шмат зь іх з бліскучымі перамогамі над маскалямі.

Як прыклад, прыгадаем бітву, што адбылася ў канцы студзеня 1564 году каля Чашнікаў, на полі званым Іванскім, калі нашыя продкі разьбілі дашчэнту 30-тысячную маскоўскую армію, якой камандаваў Пётр Шуйскі. На чале 4-тысячнай беларускай арміі, да якой далучыліся ўзброеныя віламі й тапарамі мясцовыя сяляне, стаялі беларускія палкаводцы гэтманы Мікалай Радзівіл Рыжы й Рыгор Хадкевіч. Перамога гэтая была паўтораная ў тым-жа самым годзе ў бітве пад Воршай, калі беларускія войскі разьбілі вялікую маскоўскую армію й спрычыніліся да зьмены ў карысьць Вялікага Княства Літоўскага ў час Лівонскае вайны.

Як вядома, захоп у часе гэтай вайны Іванам Грозным Полацку й паўночна-ўсходніх земляў Беларусі ў беларускай савецкай гістарычнай навуцы звычайна паказваецца як т. зв. "вызваленьне" іх "ад панаваньня літоўскіх феадалаў". Здаецца, што няма нічога больш цынічнага, псэўданавуковага, неабгрунтаванага й недарэчнага, чымся гэтае цьверджаньне. Ды й сама Лівонская вайна інтэрпрэтуецца зыходзячы з пункту гледжаньня маскоўскіх палітычных інтарэсаў, а не інтарэсаў Беларусі. Таму пара ўжо пытаньне гэтае радыкальна перагледзіць і на падзеі таго часу глянуць больш крытычна і аб'ектыўна зыходзячы з пазыцыяў нацыянальных беларускіх!

*В. Сянькевіч*

## *АБВЕСТКА*

Балеслаў Лішчонак выдаў яшчэ адну сэрыю музыкальных касэтаў. Пашыраная праграма. Больш беларускіх песьняў, чым танцавальнай музыкі. Шмат песьняў студэнтаў Лювэнскага ўнівэрсытэту, Міхася Забэйды Суміцкага ды іншых.

Кошт дзьвюх касэтаў — 12 даляраў; пакупнік аплачвае перасылку. Зьвяртацца на адрас:

B. Lisczonak, 472 Byron Court., Oshawa. Ont., L1H 6R9

## ПАПРАЎКА ПАМЫЛКІ

У н-ры 49 "Зважай", на бачыне 5-й, у артыкуле "Юбілей...", радкі 29-30 у левай калёнцы зьверху, было памылкова напісана: "з кап. Міколам Маляўкам". Імя капітана Маляўкі было Аляксандар, а ня Мікола.

# *КАСТУСЬ КАЛІНОЎСКІ І БЕЛАРУСКАЯ КУЛЬТУРА*

**»Не спраўляйце ўрачыстасьці, вы, што трымаеце маё цела. Не ўтрымаць вам маіх думак — яны там, на волі, сярод майго народу. Яны разьдзімаюць у яго сэрцы пачуцьці надзеі на лепшае жыцьцё. І прыйдзе час — разгарыцца полымя народнае і спаліць вас, гвалтоўнікі!»**

Гэтыя словы Кастуся Каліноўскага былі сказаныя ў камэры Лукіскае турмы ў прысутнасьці графа Мураўёва, які спадзяваўся, што лісьлівасьцяй і ласкаю зможа пакарыць народнага гэроя Беларусі, змушаючы яго зьмірыцца й прасіць міласьці ў маскоўскага цара-прыгнятальніка. Яны належаць да аднэй з цантральных сцэнаў вядомай п'есы Міровіча "Кастусь Каліноўскі", пастаўленай ім на сцэне Першага Беларускага Дзяржаўнага Драматычнага Тэатру ў Менску 2-га лістапада 1923 году. У ролі Каліноўскага выступаў выдатны беларускі актор, адзін з заснавальнікаў беларускага тэатру Ўладзімер Крыловіч, які асноўную ўвагу зьвярнуў тут на выяўленьне глыбокай нутраной пераканаўчасьці, веры ў сілу, праваты й непазьбежную перамогу рэвалюцыйнае справы. Няма дзіва таму, што словы гэтыя пакрываліся дружнымі воплескамі гледачоў.

П'еса Міровіча "Кастусь Каліноўскі", напісаная ім у тым-жа самым 1923 годзе, была першым у беларускай літаратуры мастацкім творам, прысьвечаным выдатнаму беларускаму рэвалюцыянеру, мысьліцелю, паэту, публіцысту й кіраўніку антымаскоўскага паўстаньня 1863 году ў Беларусі Кастусю Каліноўскаму. У гэнай п'есе Каліноўскі быў паказаны ў аб'ектыўным сьвятле: як змагар за сацыяльную й нацыянальна-культурную свабоду. Газэта "Савецкая Беларусь", якая ў той час выходзіла яшчэ ў беларускай мове,, так ацаніла прэм'еру "Кастуся Каліноўскага" (цытуем паводле працы Ўладзімера Няфёда "Беларускі тэатр" з 1959 году): гэта "першая праўдзівая гістарычная беларуская драма. У нашым сцэнічным рэпэртуары яна зьяўляецца эпохай, нягледзячы навет на свае невялікія недахопы й на спрэчныя месцы з пункту гледжаньня выкарыстаньня гістарычных фактаў і з боку мастацкай апрацоўкі".

Тыдзень пасьля прэм'еры ў тэйжа "Савецкай Беларусі" з водгукам на спэктакль выступіў Янка Купала, адзначаючы ў ім высокія вартасьці запраўды сваечасовага й патрэбнага сцэнічнага твору. Зьмітрок Бядуля прарочыў спэктаклю значэньне эпахальнае. "Кастусём Каліноўскім" захапляўся латыскі паэт Райніс, які тады якраз гасьціў у Беларусі.

Аднак па дзесяцёх гадох паказу Міровічава п'еса "Кастусь Каліноўскі" была зьнятая й забароненая, а сам Каліноўскі быў абвешчаны "шляхоцкім правадыром", "рэакцыйным сваймі ідэямі". У час нямецка-савецкай вайны Міровіч вымушаны быў стварыць новы варыянт п'есы, перарабляючы асобныя яе сцэны й вобразы, выпусташаючы яе з арыгінальнага зьместу, дапасоўваючы да патрабаваньняў кампартыі, якая апынулася была ў вялікай небясьпецы.

Тры месяцы пасьля прэм'еры "Кастуся Каліноўскага" Міровіча, у 2-м нумары часапісу "Полымя" з 1924 году, быў апублікаваны другі літаратурны твор, прысьвечаны нацыянальнаму гэрою Беларусі — верш Алеся Гурло "Кастусь Каліноўскі", у якім паэт-нашанівец пісаў:

З агнём у вачах, з душою брата,
На вуснах з клічам вызваленьня,
Агорнен ўвесь агнём сумленьня,
Ён зь вёскі ў горад, з кузьні ў хату
Ішоў па землях беларускіх
І, як прарок, прарочыў людзям,
Сваім братам, што шчасьце будзе...

Не адстае ад літаратуры й выяўленчае мастацтва ды кінематаграфія Беларусі. У 1923 (паводля іншых аўтараў — у 1925) годзе беларускі жывапісец Валянцін Волкаў стварае карціну "Кастусь Каліноўскі", а скульптар Аляксандар Грубэ ў 1926 годзе — скульптурны партрэт Каліноўскага, які экспануе на І Усебеларускай мастацкай выстаўцы ў Менску. Два гады пазьней Беларуская кінастудыя сумесна зь ленінградзкай фабрыкай "Савкіно" выпускае на экраны мастацкі фільм "Кастусь Каліноўскі", папулярызуючы імя Каліноўскага ў народзе. У ролі Каліноўскага выступаў вядомы савецкі актор Мікалай Сіманаў.

Але надыходзяць трыццатыя гады — пэрыяд разгрому беларускае нацыянальнае культуры. Імя Кастуся Каліноўскага ў БССР зьнікае амаль на цэлае дзесяцігодзьдзе. Толькі скульптару Заіру Азгуру ўдаецца вылепіць у 1933 годзе фігуру Каліноўскага для Этнаграфічнага музэю ў Менску.

Эстафэту ў галіне Каліноўскага пераймае Заходняя Беларусь. У тым-жа 1933 г. у Вільні, у сувязі з 15-мі угодкамі дня абвешчаньня незалежнасьці Беларусі ў форме Беларускай Народнай Рэспублікі й 70-мі ўгодкамі беларускае прэсы, айцец Адам Станкевіч друкуе брашуру п. заг. "Кастусь Каліноўскі, 'Мужыцкая Праўда' й ідэя незалежнасьці Беларусі", якая ня толькі дае чытачу шмат фактычнага матар'ялу пра Каліноўскага й паўстаньне 1863 году, але правільна насьвятляе гістарычны сэнс дзейнасьці Каліноўскага, паказвае ідэйную сувязь між Актам 25-га Сакавіка 1918 году й гэраічным чынам Каліноўскага ў 1862-64 гадох і адначасна натхняе маладых беларускіх паэтаў і мастакоў, якія Кастусю Каліноўскаму прысьвячаюць свае вершы, паэмы, карціны. Гэтак, у 1934 годзе асобнай кнігай выдае паэму "Сьмерць Кастуся Каліноўскага" Міхась Машара, у якой знаходзім гэтыя вось радкі:

...Кастусь...
Мяне асудзіце, я знаю,
І згіну я — няхай.
Цаной жыцьця распачынаю
Я барацьбу за родны край...

На вокладцы кнігі — партрэт Каліноўскага — гравюра на лінолеуме вядомага нашага мастака Пётры Сяргіевіча. Год пазьней паэт Валянтын Таўлай у сваёй "Песьні пра сухар" заяўляе:

...Помніцца рэху адно прадвесьне,
калі ў лясах адгрымелі стрэлы
і задыхаўся мяцеж балесна
ў пятлі Мураўёва і ў здрадзе белых, —
імем царскім, катнім загадам
прывялі атамана павесіць
мужыцкай праўды...

У 1936 годзе Максім Танк піша верш "Вільня", у якім адзначае:

...А на пліце цяжкой, бэтоннай
Дождж гразьзю прозьвішчы заплёскаў, —
Баладу віселіц сьцюдзёных
Гаворыць зь ветрам Каліноўскі.

Мастак Пётра Сяргіевіч стварае першы варыянт палатна "Каліноўскі сярод паўстанцаў". Два гады пазьней Максім Танк заканчвае сваю работу над гістарычнай паэмай "Каліноўскі". У 1939 годзе віленскі мастак Аўген Ціхановіч робіць эскіз да карціны "Пакараньне Каліноўскага".

Прадчуваючы няўхільны ваенны канфлікт зь гітлераўскай Нямеччынай, ужо ў 1940 годзе Масква пачынае гульню з патрыятызмам народаў СССР. Пачынаецца

## ВОБРАЗ К. КАЛІНОЎСКАГА Ў БЕЛАРУСКАЙ ПРОЗЕ

Як вядома, запраўдны воблік нацыянальнага гэроя Беларусі Кастуся Каліноўскага ў гістарычнай навуцы ўзнаўляўся паступова й ня без перашкодаў. Тое самае можна сказаць і пра адлюстраваньне ягонага вобразу ў беларускай літаратуры й мастацтве. Найбольш значных посьпехаў у раскрыцьці вобразу Каліноўскага дасягнула беларуская проза, якая запраўды можа пахваліцца творамі зь цікавымі сюжэтамі, арыгінальнай трактоўкай аблічча Каліноўскага і раскрыцьцём гістарычных абставінаў, у якіх Каліноўскі фармаваўся й змагаўся за сацыяльныя й нацыянальныя правы беларускага народу. На некаторых зь іх мы й спынімся. Пачнем-жа ад найлепшага зь іх — ад раману Уладзімера Караткевіча "Каласы пад сярпом тваім", першая й другая кнігі якога ўпяршыню былі апублікаваныя ў "Полымі" у 1965 годзе і які, на думку некаторых беларускіх аўтараў, зьяўляецца найвышэйшым дасягненьнем Караткевіча за ўвесь пэрыяд ягонае творчасьці.

Уладзімер Караткевіч свой творчы шлях пачынаў як паэт — зь вершаў. Першы ягоны вершаваны зборнік "Матчына душа" выйшаў у 1958 годзе. Ён і засьветчыў, што ў беларускай літаратуры зьявіўся самабытны талент. Хоць у лірыцы маладога паэта асноўная ўвага зьвярталася на праслаўленьне першага юнацкага каханьня й прыгажосьці роднага краю, але ўсё-ж такія вершы, як "Паўлюк Багрым", "Машэка", "Балада пра паўстанца Ваўкалака" паказвалі, што перад чытачом будучы летапісец гісторыі свайго краю, апявальнік яго гістарычнага мінулага.

Мяркаваньне гэтае хутка пацьвердзілася, калі Караткевіч штораз часьцей пачынае зьвяртацца да гісторыі роднай Беларусі, уваскрашаць яе сьветлыя постаці: вершы "Скарына пакідае радзіму", "Багдановіч", "Нявесьце Кастуся Каліноўскага", у якім паэт заяўляе:

...Недзе поруч ляжала дарога,
Кліч каханьня ляцеў ад ніў,
Але ён не кахаў нікога,
Бо занадта радзіму любіў

Варты лепшага ў сьвеце каханьня,
Рана скончыўшы мужны лёт,
Русы, дужы, зімным сьвітаньнем
На высокі ўзышоў эшафот...

Верш гэты быў надрукаваны ў 5-ым нумары часопісу "Полымя" з 1961 году. Ён паказаў, што для паэта гэта ня была першая сустрэча з гэраічнай постацяй беларускага народу — Кастусём Каліноўскім. Што з тэмай Каліноўскага й паўстаньнем 1863 году аўтар добра азнаёмлены. Факт, які сам Уладзімер Караткевіч сьцьвердзіў у інтэрвю з Адамам Мальдзісам, апублікаваным п. заг. "Каласы з цаліны" ў газэце "Літаратура й Мастацтва" ад 21-га ліпеня 1967 году.

Паводля Караткевіча, задума напісаць раман "Каласы пад сярпом тваім" зьявілася ў яго яшчэ тады, калі ён быў студэнтам Кіеўскага ўнівэрсытэту, г. зн. дзесьці ў першай палове 50-х гадоў. "Замест таго, каб хадзіць на лекцыі, — сказаў ён Адаму Мальдзісу, — я сядзеў у бібліятэцы над старымі кнігамі. Паступова перад маімі вачыма паўставалі прываблівыя постаці маіх продкаў — мужных, свабодалюбівых людзей. І сярод іх — паўстанцы 1863 году, якія не шкадавалі жыцьця, змагаючыся "за нашу й вашу свабоду"... Пачаў вывучаць архіўныя дакумэнты, запісваць мясцовыя паданьні. Спачатку падзеі раману былі лёкалязаваныя толькі ў Прыдняпроўі. Потым прыйшлося пашырыць рамкі, перакінуць з Прыдняпроўя "мосьцікі" ў Вільню, Пецярбург, Варшаву".

Раман "Каласы пад сярпом тваім" кніжным выданьнем двума тамамі выйшаў у 1968 годзе ў поўным

паступовая рэгабілітацыя некаторых нацыянальных гэрояў, у тым ліку й Кастуся Каліноўскага. Сыгналам для гэтае рэгабілітацыі была кніга беларускага гісторыка Лочмеля "Нарыс гісторыі барацьбы беларускага народу супраць польскіх паноў", выдадзеная ў расейскай мове ў Маскве ў 40-ым годзе, дзе Каліноўскі ацэньваецца як "пасьлядоўнік перадавых рэвалюцыйна- дэмакратычных ідэяў Герцэна й Чарнышэўскага". Міхасю Клімковічу даецца магчымасьць выкарыстаць усе матар'ялы, што ляжалі ў архівах і кнігасховішчах пад забаронаю, для напісаньня лібрэта опэры "Кастусь Каліноўскі", а кампазытару Шчаглову — стварыць музыку для гэтае гэраічнае народнае музычнае драмы. Цяжка сказаць, у якой ступені твор гэты адказваў-бы пастаўленаму заданьню, паколькі праца над ім была перарваная вайною.

Працэс аднаўленьня вобразу Кастуся Каліноўскага паскараецца ў ходзе вайны. У 1944 годзе, у сувязі з 80-мі ўгодкамі пакараньня сьмерцю Каліноўскага, акадэмік Перцаў выступае з артыкулам пра Каліноўскага, у якім сьцьвярджае ўжо, што ён быў "найбольш яскравым, найбольш адданым і найбольш таленавітым дзеячом беларускага паўстаньня ў час польскай рэвалюцыі 1863 году". Пятрусь Броўка піша верш "Кастусь Каліноўскі", які ў 1945 годзе перакладаецца ўжо ў расейскую мову.

У 1947 годзе Беларускі Акадэмічны Тэатр Опэры й Балету ставіць опэру Лукаса "Кастусь Каліноўскі". Лібрэта — таго-ж Міхася Клімковіча. Арыю Каліноўскага сьпяваў вядомы беларускі артыст Мікалай Ворвулеў.

З твораў жывапісу, якія раскрываюць воблік легэндарнага Каліноўскага, у пасьляваенны час вылучыліся "Кастусь Каліноўскі" Адольфа Гугеля й Раісы Кудрэвіч з 1958 году, "Каліноўскі і Урублеўскі на аглядзе паўстанцаў" Пётры Сяргіевіча. Ячшэ раней, у 1953 г. партрэт Каліноўскага стварыў беларускі графік Сямён Герус. У 56-м годзе партрэт Каліноўскага стварае скульптар Заір Азгур. У 60-м годзе вылепіў скульптурны партрэт Каліноўскага й мастак Сяргей Селіханаў.

У ліпені 1963 г. менская студыя навукова-папулярных і хранікальна-дакумантальных фільмаў выпусьціла на экраны фільм "Кастусь Каліноўскі", створаны пісьменьнікам Тарасам Хадкевічам і рэжысэрам Пятром Шамшурам, які, хоць і ня без недахопаў, узнаўляў вобраз эпохі й гэроя антымаскоўскага паўстаньня 1863 году ў Беларусі.

Найбольш значных аднак посьпехаў у раскрыцьці вобразу Кастуся Каліноўскага ў апошні час дасягнула беларуская проза. Сярод лепшых яе твораў — раман "Каласы пад сярпом тваім" і п'еса "Кастусь Каліноўскі" Уладзімера Караткевіча й аповесьць "Кастусь Каліноўскі" Алеся Якімовіча. Творы гэтыя цікавыя сюжэтам, арыгінальнай трактоўкай аблічча Каліноўскага й раскрыцьцём гістарычных абставінаў, у якіх Каліноўскі фармаваўся й змагаўся за сацыяльныя й нацыянальныя правы беларускага народу. Гэта — тэма асобнага артыкулу.

і добра пераапрацаваным выглядзе, дзякуючы чаму, у параўнаньні зь ягоным часопісным варыянтам, ён значна вырас і шмат скарыстаў як у сэнсе дакладнасьці ў адлюстраваньні эпохі, гэтак і агульным мастацкім узроўнем. Выйшаў ён не бязь цяжкасьцяў і перашкодаў, асабліва з боку партыйнае цэнзуры, для якое ўжо сам факт, што пісьменьнік зьвярнуўся па творчы матар'ял да мінуўшчыны роднага краю, выходзячы за рамкі дазволеных часоў Кастрычніцкага перавароту, грамадзянскай вайны і ў рэдкіх выпадках часоў рэвалюцыі 1905 году, наогул да гістарычнае беларускае тэматыкі, было спаравай вельмі непажаданай.

А што яно было так, сьветчыць тое, што з прычыны цэнзурных умяшаньняў фінал раману гэта і не зьявіўся ў друку. У першых дзьвюх кнігах свайго гістарычнага раману Ўладзімер Караткевіч стварыў шырокае гістарычнае палатно аб пярэдадні паўстаньня 1863 году. Раман меў закончыцца апаразай паўстаньня, крахам усіх спадзяваньняў, усіх ілюзіяў, але адначасова ён меў паказаць, што засталася мужнасьць, а значыць, засталося й спадзяваньне, што свабода, беларускі народ — выжывуць. А гэта ня ў плянах русіфікацыйнае палітыкі Масквы ў дачыненьні да беларускае нацыі.

Раман "Каласы пад сярпом тваім" — шырокамаштабны, манумэнтальны эпічны твор, паўнавартасная беларуская нацыянальная эпапэя, першая ў нашай літаратуры. У ім шырока й праўдзіва адлюстраваныя ня толькі аўтэнтычныя гістарычныя падзеі й выпадкі, ня толькі выведзеная багатая галярэя гістарычных асобаў розных нацыянальнасьцяў і палітычных кірункаў, але й вельмі калярытна адмаляваны палітычны, культурны й бытавы фон эпохі.

"Як адзначалі рэцэнзэнты, — пісаў Адам Мальдзіс у сваім нарысе "Жывая повязь часоў", зьмешчаным у лістападаўскім нумары "Полымя" з 1980 году, — "Каласы пад сярпом тваім" — першы беларускі гістарычны раман у поўным сэнсе гэтага слова. Праўда мастацкая, — кажа Мальдзіс — адпавядае тут праўдзе гісторыі, лёсы чалавечыя цесна зьліваюцца зь лёсам народным. Зьдзіўляе уменьне пісьменьніка пранікнуць у дух эпохі, аддаленай ад нас больш, чым на стагодзьдзе, узнавіць жыцьцё, якім яно было напярэдадні 1863 году. Для гэтага патрэбныя былі ня толькі разнастайныя веды, але й творчая інтуіцыя, так характэрная для гістарычных раманаў Караткевіча, патрэбны быў талент".

Хаця першая частка "Каласоў пад сярпом тваім" завяршаецца толькі падзеямі 1861 году, Караткевіч дакладна, у адпаведнасьці зь гістарычнай праўдай, вызначыў прычыны, якія выклікалі паўстаньне, ахарактарызаваў яго рухаючыя сілы й асабліва паказаў у правільным сьвятле ягонага кіраўніка — дальнабачнага, гэраічнага, легэндарнага Кастуся Каліноўскага.

Але тое, чаго Ўладзімер Караткевіч ня мог дакончыць у сваім рамане "Каласы пад сярпом тваім", ён зрабіў у п'есе "Кастусь Каліноўскі" ("Сьмерць і няўміручасьць"), дзе наш нацыянальны гэрой зьвяртаецца да свайго народу:

Вялікі мой народ, зямля мая.
Гняздо пакут, змаганьня і свабоды,
Зямля маіх нябёс, маёй каханай,
Маіх сяброў, маёй сьпявучай мовы...
Што бачу я ў далечыні? Пажары,
Паўстаньні, сечы, зарыва, нашэсьці.
Меч ворага амаль ля сэрца пройдзе,
Ты будзеш паміраць: Ды толькі ведай,
Бясьсьмертны ты, як фэнікс, мой народ...

Гістарычны раман Караткевіча "Каласы пад сярпом тваім" мы назвалі найлепшым. Прыгаданая п'еса "Кастусь Каліноўскі" ёсьць яго дапаўненьнем і завяршэньнем. У беларускай прозе апошніх гадоў зьявілася больш твораў, прысьвечаных вобразу Каліноўскага. Але ніводзін зь іх нельга параўнаць з творамі Караткевіча, хоць таксама яны заслугоўваюць на ўвагу сваёй гістарычнай тэматыкай. Маем на ўвазе дакумэнтальную аповесьць старэйшага беларускага пісьменьніка Алеся Якімовіча "Кастусь Каліноўскі", надрукаваную ў 7-8 нумарох часопісу "Полымя" за 1971 год, драматычную паэму Аркадзя Куляшова "Хамуціус" з 1975 году, драму — праўда, ў расейскай мове, — Эдварда Скобелева "Кастусь Каліноўскі", апублікаваную ў сьнежанскім нумары часопісу "Нёман" з 1983 году й іншыя.

За аснову свае аповесьці "Кастусь Каліноўскі" Алесь Якімовіч узяў два найважнейшыя моманты з рэвалюцыйнавй дзейнасьці Каліноўскага — выдаваньне ім і распаўсюджваньне нелегальнае газэты "Мужыцкая Праўда" і ўдзел яго ў паўстаньні 1863 году, давёўшы апавяданьне да сьмерці Каліноўскага на шыбеніцы ў 1864 годзе. Бясспрэчная заслуга аўтара ў тым, што паказаў ён Кастуся Каліноўскага згодна зь гістарычнай праўдай, як змагара ня толькі за сацыяльнае вызваленьне народу, але і за вызваленьне нацыянальнае і палітычнае

Пры ўсіх гістарычных недакладнасьцях і мастацкіх недацяжках, аповесьць Алеся Якімовіча мае сваю вартасьць хоць-бы ў тым, што пры слабой увазе да нацыянальнае мінуўшчыны Беларусі, якая існавала ў часе брэжнеўскага застою, ён зьвярнуўся да гэтае мінуўшчыны ды паказаў Кастуся Каліноўскага як беларускага гэроя, што змагаўся за поўнае вызваленьне свайго народу.

Што-ж тычыцца паэмы Куляшова "Хамуціус", адзначым толькі, што яна запраўднага Каліноўскага, рэвалюцыянера-змагара за сацыяльныя й культурна-нацыянальныя правы свайго народу не паказала. Аднабакова, з сацыяльна-філязафічнага, а пры тым і ўсерасейскага боку, паказаны Кастусь Каліноўскі і ў драме Скобелева "Кастусь Каліноўскі", надрукаванай у апошнім нумары часопісу "Нёман" за 1983 год.

*Язэп Барэйка*

## З НАГОДЫ ТЫСЯЧАГОДЗДЗЯ ХРЫСЬЦІЯНСТВА БЕЛАРУСІ

Парафія БАПЦ у Тароньце выдала памятныя канвэрты, прысьвечаныя гэтаму вялікаму юбілею. Эмблема, якую гэтта зьмяшчаем, выкананая нашай выдатнай мастачкай Тамарай Стагановіч-Кольба, чырвоным колерам рэпрадукаваная на канвэртах двух вялічыняў — бюровай і звычайнай. Цана канвэртаў: 3 даляры за 20 штук зь перасылкай. У большай колькасьці — 10 цэнтаў за штуку. Перасылку аплачвае пакупнік. Цэны для арганізацыяў паводля ўмовы. Зьвяротацца ў парафію й чэкі пісаць на наступны адрас: Parish of St. Kiryla of Turau, 524 St. Clarens Ave., Toronto, Ont., M6H 3W7

## ПРЫВІТАНЬНЕ РЭГАНА

Вялікі юбілей — 70-я ўгодкі абвешчаньня незалежнасьці Беларусі адсьвяткавалі Беларусы ўва ўсіх краінах Вольнага Сьвету. І з гэтай нагоды амэрыканскі прэзыдэнт Рэган вітаў грамадзянаў ЗША Беларусаў наступным лістом:

*Сардэчныя прывітаньні Беларуса-Амэрыканцам і ўсім, хто адзначае 70-я ўгодкі Беларускае Незалежнасьці! Адзначэньнем гэтых угодкаў ушаноўваецца наважанасьць народу Беларусі жыць у свабодзе й незалежнасьці. Гэта — таксама ўшанаваньне гордае й старавечнае спадчыны, дзеля захаваньня якое Вы так шмат робіце.*

*Я далучаюся да Вас у ўшанаваньні гэраізму Беларусі перад абліччам вайны й шматгадовага ўціску. Саветы й надалей перасьледуюць тых, хто выступае ў абароне свае рэлігіі, мовы, гісторыі, культуры й Богам дадзеных правоў чалавека.*

*Адважныя й красамоўныя галасы ўсё яшчэ сьветчаць пра нязломны дух Беларусі. Я спрадзяюся разам з вамі, што прыйдзе дзень, калі народ Беларусі зноў будзе свабодны, каб ужыцьцявіць свае нацыянальныя імкненьні.*

*Няхай Бог благаславіць і Вас і Беларусь.*

**Роналд Рэйган**




## *ЗБРОЯ ЦІ ГАЛОСНАСЬЦЬ...*

Апазыцыя супраць праграмы Гарбачова — галоснасьці й перабудовы — відавочна расьце. Яна выводзіцца зь бюракратыі, партыйнага апарату, заядлых сталіністаў і хабарнікаў. Адылі да гэтага часу нічога ня чулі мы пра яшчэ адзін ключовы элемэнт структуры ўлады — мілітарны. Выглядае, што тут таксама ўсё ня йдзе ў лад.

Гарбачоў цэлы час паўтарае, што Савецкі Саюз выдае зашмат на абарону. Сродкі, патрэбныя на аднаўленьне савецкае індустрыі, на неабходныя тавары хатняга ўжытку павінны прыйсьці з ваеннага бюджэту. А што гэта за бюджэт!

Да нядаўнага часу мяркавалася, што Саветы выдаюць на абарону 12-15% усей дзяржаўнай прадукцыі, паводля іншых падлікаў — 16-18%. Цяпер-жа, бяручы за аснову найнавейшыя даныя з савецкіх крыніцаў, выглядае, што ваенны бюджэт СССР забірае 20%, а магчыма навет 25% нацыянальнай прадукцыі. Для параўнаньня, ЗША выдае на ваеншчыну адно 7% свае нацыянальнае прадукцыі.Што яшчэ горш: выглядае, што савецкая гаспадарка — адно палову вялічынёй амэрыканскай — цяпер яшчэ корчыцца-зьмяншаецца. Апошнімі гадамі яна буйнела адно ў галіне экспарту газу й водкі — не такіх тавараў, зь якіх вырастаюць супэрдзяржавы.

Ясна, што Расея ня можа абнавіцца бяз рэдукцыі выдаткаў на ваеншчыну. Ня будзе больш масла ці навет маргарыны, калі ня зьменшацца расходы на гарматы. Каб гэта асягнуць, Гарбачоў, бяз розгаласу, праводзіць перабудову збройных сілаў. Бальшыню старых маршалаў з Другой сусьветнай вайны ён паслаў на пэнсію, а на іх месца прыйшлі малодшыя афіцэры, што нажылі чыны ў Афганістане. Фактычна ў войску адбылася большая перабудова чымся ў якой іншай часьці савецкага грамадзтва.

Тымчасам усё ў парадку, але малодшыя афіцэры пранесьлі новую праблему. Старыя генэралы з 1940-х гадоў былі задаволеныя сваймі танкамі й гарматамі, каторых у Расеі хапала. Але новыя генэралы хочуць мець цэлую новую генэрацыю высокатэхнічнай зброі.

На працягу наступных 15 гадоў у мілітарнай тэхналёгіі адбудзецца рэвалюцыя. "Хітрыя" й "дасканалыя ракеты возьмуць на прыцэл далёкія аб'екты. Самалёты будуць лётаць самі й зьбіваць няпрыяцеля. Звышхуткія кампютары будуць кіраваць баямі скарэй і больш спраўна чым чалавечыя мазгі.

Амэрыканская тэхналёгія нябачных [Stealth] бамбавозаў зрабіла няпрыдатнымі вялікія сэктары савецкае паветранае абароны. Цяпер СССР выдае 18% мілітарнага бюджэту на сваю сыстэму паветранае абароны — "зорную вайну". Для гэтае мэты ў заўсёднай гатоўнасьці трымаецца 371 тыс. войска, 1300 інтэрцэптэраў, 7400 радараў і 9300 ракетных базаў. Амэрыканскі [Stealth] бамбавік Б-2, а таксама Круз-ракета цяпер змусяць да вялікага ўкладу капіталу ў расейскую паветраную Лінію Мажыно — міліярды даляраў на новыя радары, ракеты й кампютары. Каб не адстаць ад Пэнтагону, трэба выдаць міліярды на новыя досьледы ў Зорныя Войны ды шматлікую пабочную тэхналёгію. Усё гэтае багацьце Гарбачоў хацеў-бы выдаць на гаспадарку.

Цікава, што пакаленьне маладых афіцэраў, павышанае Гарбачовым, цяпер патрабуе больш сродкаў на мілітарную тэхналёгію 21-га стагодзьдзя. Савецкая літаратура пра абарону перапоўненая "галоснасьцю" пра патрэбу хітрае зброі, лепшае каманды каманды й кантролі й новай экзатычнай тэхналёгіі. Маладая кляса афіцэраў спасьцерагла, што некаторыя японскія цацкі маюць у сабе больш высокай тэхналёгіі чымся некаторыя цяперашнія савецкія сыстэмы зброяў. Выглядае, што мілітарысты будуць дамагацца больш грошы, каб не адстаць ад "захадніх імпэрыялістаў" ці тых д'ябальскіх Японцаў, што робяць "чыпы". У іх ліку пачуем і голас маршала Агаркава: пачнецца новая кампанія, каб прыдбаць новую высокатэхнічную зброю

Eric Margolis, Sunday Sun, 15.5.1988

## А КОЛЬКІ ХАТЫНЯЎ?

Напярэдадні візыты амэрыканскага прэзыдэнгта ў "Імпэрыю Зла", шэф палітдырэктарату Савецкай арміі ген. Аляксей Лізічоў асьветчыў, што на працягу 8 1 2 гадоў маскоўскага агрэсыўнага нападу на Афганістан у вайне з Мушахэдзінамі загінула 13310 савецкіх жаўнераў, паранена 35478 і прапаўшых у баёх — 311.

Галоўны маскоўскі палітрук прамаўчаў пра тое колькі маскоўскія варвары натварылі ў Афганістане Хатыняў. Паводля прыблізных падлікаў захадніх палітыкаў, маскоўскія варвары вынішчылі звыш міліёну цывільнага жыхарства, а звыш чатырох міліёнаў змусілі шукаць ратунку ў суседнім Пакістане.

## »ХТО ЯНЫ, 'НЕФАРМАЛЫ'»?

**Пад такім заг. менскі часапіс »Беларусь» нр.4/88 зьмяшчае рэпартаж Віктара Шніпа пра нараду »нефармалаў« летась 26-27 сьнежня у турбазе »Палачанка» ля Валожына. Некаторыя выняткі зь яго артыкулу:**

**Я...баяўся сустрэчы зь »нефармаламі», бо ў нас пра іх нічога добрага гаварыць ня прынята. Відаць, такі вось страх быў і ў работнікаў камсамола: раней падобных нарад не праводзілася, да таго-ж палохала афіцыйная лічба ўдзельнікаў: 560. Прыйшоўшы на месца збору, ні »мэталістаў»,ні »рокэраў», ні, тым больш, наркаманаў я ня ўбачыў. Звычайныя хлопцы й дзяўчаты, адно, чым розьніліся яны ад большасьці нашай моладзі — беларуская мова, на якой яны размаўлялі.**

**Мне раптам прыгадалася іншае: што толькі пра »нефармалаў» не гавораць, якія толькі ярлыкі на іх ня вешаюць! Яны і фашысты, яны і нацыяналісты, яны і сіяністы, і навет служкі ЦРУ. А яны... Яны проста маладыя, неабыякавыя да сваёй справы, да свайго месца ў жыцьці, людзі.**

**Два дні праходзіла нарада нефармальных арганізацый. Працавалі сэкцыі: »Моладзь, мова і школа», »Моладзь, мова і фальклёр», »Моладзь і ахова помнікау», »Моладзь і праблемы экалёгіі», »Моладзь і гісторыя», »Моладзь і працэсы дэмакратызацыі».**

**Усе пастановы — карысныя і неабходныя. У іх адчуваецца, што ў моладзі баліць душа за родны край. Хочацца верыць, што пастановы не асядуць мёртвым грузам у папках бюракратаў.**

## 18-я СУСТРЭЧА БЕЛАРУСАЎ ПАЎНОЧНАЕ АМЭРЫКІ

адбудзецца сёлета 3-5 верасьня ў Тароньце

*У праграме:* Сьвяткаваньне 1000-годзьдзя хрысьціянства ў Беларусі. Абарона беларускае мовы й інш.

Па інфармацыі зьвяртацца да ЗБК або БАЗА

## "КОНТИНЕНТ" ПРА БАГУШЭВІЧА

У сёлетнім 55-м н-ры расейскамоўнага, выдаванага ў Парыжы, часапісу "Континент" зьмешчаны артыкул К. Акулы (9 бачынаў) п. заг."Акупацыйны рэжым супраць "бацькі" беларускага адраджэньня", дзе Акула характарызуе Францішка Бугушэвіча, як бацьку беларускага адраджэньня, а таксама спробы акупацыйнага маскоўскага рэжыму зруйнаваць Багушэвічаў дом у Кушлянах і юбілей у 1990 годзе — 150-я ўгодкі ягонага нараджэньня.

"Континент" выходзіць чатыры разы на год, па 440 бачын, тыражом звыш 4 000. Шмат яго дастаецца і ў Савецкі Саюз, а на бачынах яго знойдзеце шмат твораў найпаважнейшых паэтаў, пісьменьнікаў і журналістаў розных нацыянальнасьцяў.

### ФОНД "ЗВАЖАЙ"

Ад 18-га лютага да 21-га травеня сёлета ў касу нашага часапісу прыйшло: Н. Жызьнеўскі — 6.25 дал., Знаёмы (з продажы) — 75.30, МИ. Скабей — 17.80, М. Нікан — 4.50, Б. Ліш- чонак — 20.00, Раіса Жук-Грышкевіч — 5.00, М. Буцько - 10.00, М. Грэбень - 23.30.

*Разам — 162 дал. 15 ц. Усім вельмі дзякуем.*

**Увага: Некалі ў банку было адкрыта спэцыяльнае конта на »Зважай», таму што шматлікія грашовыя чэкі прыходзілі на гэты назоў. Цяпер гэтае »бізьнесовае» конта шмат больш каштуе, а не дае ніякіх працэнтаў даходу. Улічваючы, што нашы падпішчыкі ў бальшыні прысылалі чэкі на прозьвішча й імя рэдактара, просім ад гэтага часу ўсіх падпішчыкаў высылаці належнасьці** *выключна на прозьвішча рэдактара. У недалёкай будучыні "бізьнесовае" конта "Зважай" маецца намер ліквідаваць.*

**К. Акула**

